Przesyłka opłacona ryczałtem

Nr 6 | Субота 13-га Сакавіка 1926 г. м. Вільня | Год I

m. Wilno
Uniwersytecka
N9
„Przegląd
Wileński"

# Беларускае Слова

Выходзіць раз у ты... | Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Т...рыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці. — Шырокі дэмократызм. — Барацьба з комунізмам. — Нацыянальная царква. — Краёвая згода. — Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski" pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам—20 гр сярод тэксту — 25 гр. і на апошняй стр.—15 гр. за радок.

## ПРАЛЕТАРСКАЯ „ГРАМАДА".

У № 2 нашае газэты мы падалі характэрыстыкі беларускіх палітычных групаў, якія паўсталі на абломках Беларускага Пасольскага Клюба.

Цяпер мы хочам крыху застанавіцца на больш дэтальным разгледжаньні як імкненьняў гэтых групаў, так і гороскопу іх палітычных пасьпехаў. Усім ведама, што Сялянска-Работніцкая Грамада, з сваім лейб-органам „Беларускай Нівай", павяла, зусім ужо адкрыта, комуністычную работу.

Гэта відаць з лічных комуністычных артыкулаў „таинственнай" рукі, якая ніколі не падпісывае гэтых сваіх артыкулаў, відаць з рэвэляцыяў „мудрэйшага" з беларускіх „палітыкаў" п. Мятлы, які аб'явіў на ўвесь сьвет, што у Бальшэвіі *рай*. Роўным чынам і рэшта паслоў з Грамады дружным хорам гукае комуністычны сымвол веры, ня выключаючы і іх правадыра —сымпатычнага п. прафэсара, які калі трэба і ня трэба пляце нешта аб ня істнуючым беларускім пралетарыяце (глядзі адчот аб мітынгу „Грамады" ў Горадні, „Бел. Ніва" № 19) аб „соцыяльнай рэвалюцыі", уладзе работнікаў і сялян" і г. д.

Адначасна, чуючы прыбліжэньне выбарнай кампаніі, бальшавікі не шкадуюць грошы на свае выданьні і нашыя вёскі завальваюцца бязплатна нумарамі „Беларускай Нівы" і дарага каштуючай „Маланкі". Паглядзім-жа як рэагуе на гэтую комуністычную кампанію беларускі народ.

Трэба прызнаць, што ад самага пачатку утварэньня „Сял.-Раб. Грамады", яна мела даволі значны пасьпех. Тлумачыцца гэта пэўнай папулярнасьцю і папярэдняй ідэёвай нацыянальнай працай правадыра яе п. Тарашкевіча і тым, што „Грамада" заняла найбольш рэзкае апазыцыйнае становішча ў адносінах да ўраду, адміністрацыі, паліцыі і г. д. Гэта надта *падабалася беларускаму насяленьню*, якое многа цярпела ад няўдалага упраўленьня „Крэсамі". Аднак-жа будаваць свой пасьпех і папулярнасьць, сярод беларускага сялянства, толькі *на негатыўнай* праграме было нельга. Трэба было даць нешта *пазытыўнае* (палажыцельнае). І вось „Сял. Раб. Грамада" дала беларускаму сялянству.... комуністычную праграму. Замест таго, каб стаць на абарону беларускага сялянства, якое зруйнавана вайною, знаходзіцца без апекі і часта-густа церпіць ад сваволі адміністрацыі „Грамада" пачала насіцца з нейкім, легэндарным „беларускім пралетарыятам", якога ніколі ня было на Беларусі, бо ня можна лічыць за „беларускі пралетарыят" работніцкую мешаніну ўсіх нацыянальнасьцяў, насяляючых гарады Польшчы. Нарэшце, калі-б і прызнаць істнаваньне гэтага пралетарыяту, дык ён на столькі нялічны ў параўнаньні з беларускім сялянствам, што высоўваць яго на першае месца—зусім дзіўна. Галоўнае аднак-жа—гэта тое, што інтарэсы пралетарыяту гарадоў і інтарэсы вясковых сялян *зусім супярэчныя*.

Гэта зразумелі сяляне ўсяго сьвету і з гэтай прычыны на усім сьвеце, *у працiўвагу* соцыялістычным і *комуністычным* арганізацыям *пралетарыяту* паўстаюць *клясовыя* арганізацыі сялянства. Гэтаю супярэчнасьцю інтарэсаў пралетарыяту і сялянства тлумачыцца тая варожая пазыцыя, якую *пралетарская* „Грамада" заняла да усіх арганізацыяў, баронячых інтарэсы беларускага сялянства. І калі тую заядласьць, з якой орган „грамады" „Беларуская Ніва" кідаўся на Ч. Бел. Раду, можна яшчэ вытлумачыць мамэнтамі палітычнымі, як „орыентацыя" і г. д., дык варожасьць „Беларускай Нівы" да „хрысьц. дэмакратаў" і „Сялянскага Саюзу" тлумачыцца амаль ня выключна мамэнтамі соцыяльнымі. Гэта асабліва добра відаць з *эпітэтаў*, якія дае „Бел. Ніва" старэйшай з беларускіх часопісяў— „В. Krynicy", называючы яе „буржуазна—ксяндзоўскім" органам З другога боку, ад часу комунізацыі „Грамады" як „В. Krynica", гэтак і пазьней паўстаўшая „Сял. Ніва" адмяжоўваюцца ад „Грамады", што асабліва ясна была відаць з апошніх выступленьняў „В, Krynicy" і з рэвэляцыйнага артыкулу аб „куртатай пэрсанальна-культуральнай аўтаноміі Савецкай Беларусі" п. Ярэміча ў „Сялянскай Ніве".

Аднак-жа, ня толькі ўсё арганізаванае беларускае грамадзянства Заходняй Беларусі з агідай адвярнулася ад „Грамады", ідэнтычнае да яе становішча займаюць і прадстаўнікі Усходняй Беларусі (зразумела тыя, якія могуць адкрыта гаварыць)?

Аб адносінах беларускага грамадзянства да бальшавікоў „там" ясна гаворыць пачаўшыйся ў Менску працэс групы вясковых настаўнікаў з Юрым Лістападам на чале.

Аб адносінах-жа да комуністаў беларускай эміграцыі гавораць №№ 1 і 2 „Бюлетэня белар. эсэраў" і „Бюлетэнь Рады Бел. Нар. Рэспублікі" ад 19-І 26 г. Вось як характэрызуюць „Сял.-Раб. Грамаду" прадстаўнікі чыстай незалежніцкай думкі:

„Замест абароны правоў беларускага Народу „Сял. Раб. Грамада" ў Варшаве разбівае адзіны нацыянальны фронт у гэтай абароне і шукае аб'еднаньня з *польскай* хлопскай партыяй, якая *бараніць інтарэсаў* беларускіх ня будзе, а будзе падпарадкаваць сабе беларускія сілы таксама, як хоча падпарадкаваць сабе польская ком. партыя комун. партыю Заходняй Беларусі. *Адарваўшаяся ад нацыянальнага фронту* „Сял.-Раб. Грамада" хістаецца паміж польскай і расейскай комуністычнай партыяй і стараецца, ня маючы зусім свайго пралетарыяту бараніць пралетарыят чужынцаў *процi беларускага сялянства*.

Пасол Тарашкевіч нападае на „Сялянскі Саюз" за тое, што ён разрожнівае інтарэсы вёскі і места—сялян і рабочых. Разрожніваць трэба. Ніколі вёска не пагодзіцца з местам, калі нават не свой, а чужы пралетарыят будзе забіраць хлеб амаль дарма і нічога не даваць вёсцы". Гэткім чынам *усе* палітычныя беларускія групы, як у краю так і за межамі яго аднагалосна характэрызуюць „Сял. Раб. Граmаду": 1) як арганізацыю комуністычную, 2) як здрадзіўшую інтарэсам беларускай нацыянальнай справы, бо яна прыняла прынцып Інтэрнацыяналу і 3) як здрадзіўшую беларускаму сялянству, бо яна стала на абарону не яго, а *інтэрнацыянальнага пралетарыяту* процi інтарэсаў беларускага сялянства.

## Палітычны агляд.

З палітычных падзеяў апошніх дзён на першым месцы трэба паставіць францускa турэцкі дагавор, які нядаўна падпісаны ў Ангоры. Факт гэты вельмі непакоіць Англію, якая ўважна сочыць за кожным крокам усіх дзяржаваў як на Блізкім, гэтак і на Далёкім Усходзе. Французка-турэцкі дагавор зьяўляецца поўнай неспадзянкай для Англіі, тым больш, што яшчэ нядаўна высокі камісар Сірыі Жувэнэль запэўніў Чэмбэрлена, што Францыя ня зробіць ніякіх крокаў бяз ведама і згоды Англіі. Гэтаму можна было верыць дзеля таго, што інтарэсы як Францыі, гэтак і Англіі на Блізкім Усходзе вельмі цесна перапляліся. Францыя, як ведама, мусіць заўсёды сумесна з Англіяй вясьці аружную барацьбу процi арабаў.

Але справа тут зусім ня ў тым, што Францыя не датрымала свайго слова перад Англіяй. Паміж Турцыяй і Англіяй, як ведама, яшчэ ня уладжаны конфлікт з за Мосуля. Перагаворы па гэтаму пытаньню, якія нядаўна вяліся ў Ангоры, не далі ніякіх рэзультатаў. І вось у гэты самы час даходзіць да парузуменьня паміж Турцыяй і хаўрусьніцай Англіі-Францыяй. На падставе гэтага дагавору, Турцыя, між іншым, атрымала права на карыстаньне багдадскай чугункай для перавозкі сваіх войскаў да Іраку. Як ведама, Англія у свой час атрымала ад Лігі Народаў 4-х гадовы мандат на Ірак. Нядаўна тэрмін гэтага мандату скончыўся і ангельская палата 19 лютага ратыфікавала ўмову паміж Іракам і Англіяй, паводле якой тэрмін мандату Англіі над Іракам прадоўжаны яшчэ на 25 гадоў. Гэта зьявілася як-бы адказам на францускa турэцкі дагавор, падпісаны 18 лютага.

Само сабою паўстае пытаньне, чым вытлумачыць гэты крок Францыі, якая мае шмат супольных з Англіяй інтарэсаў у Афрыцы і Азіі?

Тлумачэньне гэтаму трэба шукаць у новым кірунку ангельскай замежнай палітыкі, якая за апошні час значна адхілілася ад французкай. Ангельскі міністар замежных справаў Чэмбэрлен, у часе свайго пабыту ў Італіі пасьля падпісаньня лёкарнскіх трактатаў, зрабіў нейкую асобную ўмову з Мусоліні. Рэзультатамі гэтай умовы Англія была гэтак задаволена, што зрабіла Італіі вялікія палёгкі ў справе ваенных даўгоў. Апрача гэтага Італія мае атрымаць нейкія канцэсіі на Блізкім Усходзе. Як ведама, Італія мае вялікі збытак насяленьня. Амэрыка, у якую да гэтага часу кіравалася ўся італьянская эміграцыя цяпер ужо ня прымае эмігрантаў з Эўропы, у тым ліку і з Італіі. Дзеля гэтага Блізкі Усход мае для Італіі вялікае значэньне, як абшар для калёнізацыі збытку насяленьня. Усім ведама, якое прыкрае ўражаньне зрабіла ў свой час умова паміж Англіяй і Італіяй на Турцыю і Саветы. Бязумоўна ня добрае ўражаньне зрабіла яна і на Францыю, але апошняя не зьвярнула ўвагі, бо не хацела псаваць адносінаў з Англіяй і Італія перад сакавіковай сэсіяй Лігі Народаў. І вось, апошняя францускa-турэцкая ўмова зьяўляецца адказам на ангельска італьянскі дагавор. Ангельская прэса лічыць гэты крок Францыі—па-

